Мікола Аўрамчык



# ЗАПРАШЭННЕ ДА РОЗДУМУ

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994



* * *

Мае настаўнікі і вучні,
Мае калегі і сябры,
Без вас,
Як без прыдатка — злучнік,
Я з некаторае пары
Тут,
За гарамі і лясамі,
У чужадальняй старане,
Дзе,
Як вы ведаеце самі,
Лягчэй глядзець і дыхаць мне.

Але,
Наколькі гэта можна,
Перад усімі на вачах,
Я за паўсвету,
З вамі з кожным
Гаворку шчыра распачаў.

І ўжо становіцца відушчы
Пагляд знявечаных вачэй,
І грудзі не сціскае ўдушша,
І сэрцу робіцца лягчэй.

* * *

Я скажу: «Не надо рая,
Дайте родину мою».

*Сяргей Ясенін*

Памагчы не могуць
Праклёны і маленні.
Кажуць:
«Трэба жыць, як набяжыць».
У прыморскім раі,
На вечным пасяленні,
Без прытулку вымушаны жыць.

Сузіраць міжвольна
Высадку дэсанта
З сушы
ды з паветра і з вады —
Стомленых курортнікаў,
Жвавых экскурсантаў,
Што імкнуцца адусюль сюды.

Дзівяцца Ай-Петры
На сонечным сугрэве,
Аглядаюць кожны парк і пляц,
Стройныя секвоі —
Мамантавы дрэвы,
Царскі белакаменны палац.

Дзесяць год бадзяюся
Ў экзатычным раі
Ды ў людзей
прыстанішча прашу...
Думкі і ўспаміны
Аб мілым родным краі
Дзень і ноч
вярэдзяць мне душу.

Засланіць не здолелі
Велічныя горы
На радзіму запаветны шлях.
Гул марскі нагадвае
Шум вячысты бору,
А секвоі —
хвоі на палях.

Ígліцы калючай
Вечназялёны неруш,
Як шыпшыны параснік густы.
То чабор напомняць,
То дзеразу,
то верас
Размарыну дробныя кусты.

Вечным сном спачыў бы я
Пад бярозай ніцай,
Адбіваючы паклон зямны
Краю,
дзе, як бомы,
Пазвоньваюць крыніцы
І азёры звоняць,
як званы.

# ЛЁС

*Аскаду Мухтару*

Ці помніш ты мяне,
Аскад,
Калега мой і аднагодак?..
Цябе,
далёкі ўзбекскі брат,
Успамінаю я заўсёды.

Бо не забыць пары тае,
Калі
як госцю дарагому
Мы родныя краі свае
Паказвалі адзін другому.

Цымбалаў тонкі перазвон
І гукі хрыплыя карнаяў*
Здымалі стому,
гналі сон,
За сэрца,
за душу кранал і.

У цеснаце застольных месц
Цякла гамонка мірным ладам.
Быў зразумелы сэнс і змест
Чужых нам слоў без перакладу.

Ды, як на зло,
якраз тады
Працяглы рокат землятруса
Давёў узбекаў да бяды,
Азваўся ў сэрцах беларусаў.

---

* Духавы музычны інструмент.

За Беларусь
каля Дняпра
Загінуў твой настаўнік строгі,
Паэт-салдат Султан Джура,
Што спіць у вёсцы Казярогі.

Дзе Казярогі й Сабалі
Чакаюць коз і сабаліхаў,
Злавесна звісла на палі
Крыло чарнобыльскага ліха.

Мо боскі суд —
гэта бяда?..
Ці ж мала войнаў беларусам?
Няўжо алаху не шкада
Узбекаў мучыць землятрусам?

# ТРЫ КОЛЕРЫ

На палях, у лузе і пад клёнамі
Змалку,
з маладых яшчэ гадоў,
Кланяўся я колеру зялёнаму
І сягоння кланяцца гатоў.

Ён адзін з загадкавымі тайнамі,
Мае асаблівасці свае —
Першыя зачаткі жыццядайнасці,
Што прыродзе ўсёй
жыццё дае.

Колерам блакіту жыццядзейснага
Захапляўся я з юнацкіх дзён,
Бо пад ім
не бачыў месца цеснага,
Знаў:
жыццю садзейнічае ён.

Дужасцю з маленства не валодаў я,
Болей кволіўся.
І мо таму
Без энтузіязму, з прахалодаю
Сустракаў халодную зіму.

А цяпер не бачу снежнай замеці:
Тут не тчэцца снегавы кілім.
Але колер іх застаўся ў памяці,
Кожны год сумую я па ім.

Не перад жыццём капітуляцыя
Зараз гэта,
а жыцця —
працяг.

Знаю я,
                    што ў войску многіх нацыяў
Азначае ўзняты белы сцяг.

Ды старых
                    заманлівымі сіламі
Вабіць свежасць белай прасціны.
Белы колер быў спрадвеку сімвалам
І бязгрэшнасці,
                    і чысціні.

* * *

*Закі Нуры*

Да піхт,
кіпарысаў і кедраў,
Што высяцца ў парку старым,
За тысячы аж кіламетраў
Прывёз хтось
бярозкі дзве ў Крым.

Не важна,
з якое нагоды,—
Сябрам партызанскім зарок,
Юнацкі інстынкт лесавода,
Паэта няўрымслівы крок.

Я ўдзячны яму за іх росквіт,
Таму што яны з тых часоў
Прывабным паркалем бяросты
І шоўкам даўгіх валасоў

Сябрам навяваюць у скрусе
Знаёмыя змалку да слёз
Гаі беластволых бяроз
Татарыі ды Беларусі.

Краёў дарагіх, запаветных,
Дзе грэшны пабачыў ты свет,
Заслонава мужны разведчык
І шчыры татарскі паэт.

## ПРАЗАРЭННЕ

> Агонь на крылы маладыя плёснуў
> І выпаліў нязмыўнае таўро.
>
> *Аляксей Пысін*

Каб лётаць птушцы,
трэ мець сілы
Пераадолець свой цяжар.
А мне яшчэ пры ўзлёце
крылы
Сусветны апаліў пажар.

Нас бралі за мяжой на мушку,
Каб утрымаць любой цаной...
То кальцавалі,
быццам птушак
У цеснай клетцы драцяной.

То гналі з біркамі на шыі
Усцяж падоўжнай караной*,
Нібы авечак гурт паршывы
Або бязмозгіх бараноў.

А мне ж хацелася дадому,
Як з пекла грэшніку —
у рай...
Я быў наіўны і свядомы,
Я быў даверлівы праз край.

Я не ўяўляў,
што мне на свеце
Не стануць людзі давяраць
І дома будуць па анкеце
Мой шлях жыццёвы правяраць.

---

* Праход у глыбіні шахты ад галоўных клецяў да паасобных штрэкаў.

Узняты з цемры падзямелля,
Прытуплены пагляд вачэй —
Быў пільны пры святле завельмі
І ўсё ў жыцці ўспрымаў ярчэй.

Не даравалі мне ніколі
Каранаваныя чыны,
Што за мяжой
я ўбачыў болей,
Чымся дазволілі б яны.

Каб я не пікнуў у далейшым,—
Зацуглілі,
аж сперла дых,
І з рук не выпускалі лейцы,
Раз-пораз тузаючы іх.

Маўляў, от пагарцуй,
васпане,
Калі ты выжыў,
а не здох!
Ні ўспудзіцца
я быў не ў стане,
Ні на дыбкі стаць
я не мог.

Цягнуў я лямку з сілай конскай
У пекле страху ды маны
І верыў,
што насустрач сонцу
Кручу на восі шар зямны.

Круціў жа прывад малатарні,
Якая ў свету на вачах

Не малацьбу вяла,
                    а марна
Гула і ўдзень і па начах.

Мяне трымалі ў чорным целе,
Ніхто не знаў,
                    што не з дабра
Ў ім слёзы горкія кіпелі,
Нібы ў бязмоўнага бабра.

# БАЛАДА ПРА СЛОВЫ

*Івану Драчу*

Іванка маленькі
у кашулі
Няўзнак
Нарадзіўся
на свет.
Пад вокнамі ў садзе
зязюля
Яму накувала сто лет.

Матулінае калыханкі
Лагодна пазвоньваў званок:
«Здаровенькі будзь,
мой Іванка,
Вялікі расці,
мой сынок!

Расці-падрастай,
мой Іванка,
Матулю парадуй і ўцеш.
Куплю я табе маляванку,
Іванка,
калі падрасцеш.

А станеш дарослы,
Іванка,
Уцеха і радасць мая,
Кашулю табе вышыванку
Пашыю і вышыю я.

Ты пад калыханку матулі,
Іванка,
расці і дужэй!

Пагушкаю я:
люлі, люлі,
Засні,
мой сыночак,
барзджэй!»

Хлапчук успрымаў адмыслова
Па матчыных нават губах
Не толькі
сэнс кожнага слова,
А колер яго,
смак і пах.

Салодкім ён быў задаволены,
Як мацерыным малаком,
Ад кіслага слова
міжволі
Сціскаўся малютка маўчком.

Здзіўляўся,
што ў іхніх мясцінах
Птушына балотная —
драч,
А ў іншых,
як венік з галінак,
Яе называюць —
дзяркач.

Пасля зразумеў паступова,
Што слова —
вастрэй ад ляза,
Што слова —
ліхая абмова,
Згарае яно,
як сляза.

Што песня без слова —
нямая,
Як гучна яна ні звініць.
Што словы ў жыцці паміраюць,
Як дзеці ў галодныя дні.

І ўжо прарасталі ў самога
Яны па загаду рукі,
Нібыта ад ліўня грыбнога —
Праўдзівікі-баравікі.

Ды словамі ўжо гандлявалі,
А ён заклікаў,
каб яны
Зняволеных ператваралі
У птахаў крылатых зямных.

Каб вязні з астрогаў праклятых
Уміг разляцецца маглі,
Каб турмы і ўсе казематы
Пустыя былі на зямлі.

Калі б заклінаннем вось гэткім
Мяне акрыліў ён калісь,
Не тое
што з лагернай клеткі
Узняўся б я птушкай увысь,

А словам гаючым,
як зеллем,
Узбуджаны,
катам назло,
Я нават з глыбінь падзямелля
Змог выпырхнуць бы на святло

* * *

Дзякуй вам,
Алена і Наташа,
Што ў маёй бацькоўскай старане
Назбіралі ўлетку зёлкаў нашых
І зімой
у Крым прыслалі мне!

Нават не паверыце,
як толькі
Кіпенем абдам
ці ўкіну ў вар
Сушаныя ягады і зёлкі —
Дзьмухне
даўкім водарам у твар

Мёду ліпеньскіх ліповых кветак
Ды падбелу і суніц з бароў —
Дзьмухне на мяне духмяным летам,
Галаву захмеліць —
будзь здароў!

Як прыемна ўзварам іх сагрэцца!
Ад сунічніку ды ад шыпшын
Я зусім не адчуваю сэрца,
Лёгка дыхаць,
светла на душы.

Што ў разгар зімы
ды водар лета
Вы прышлеце мне,—
я не чакаў...
Акрыяў я духам.
І за гэта
Дзякуй вам,
унучка і дачка!

* * *

*Фёдару Сухаву*

Калі пачуў я,
што за вернасць Музе
Сцярпеў ты гэтулькі пакут,
Што Беларусь
ты ўсю прапоўз на пузе
І вызваляў мой родны кут,—

Перад табой
я ўпаў бы на калені,
Калі б ты не прызнаўся сам
Адразу ж,
у наступнае імгненне,
Што быў паранены ты там.

І я тады падумаў:
«Дзякуй богу,
Што ты не склаў там галавы,
А выкараскаўся з бяды,
нябога,
Застаўся цэлы і жывы».

На жываце
паўзлі мы паў-Еўропы,
Укрыцці ты капаў у ёй,
А я —
скляпенні ў вугалі ды гроты,
Хады
і лёхі пад зямлёй.

Табе напомняць
гукі нашай мовы
То гул гарматных навальніц,

То гоман пушчаў
ды бароў сасновых,
То звон азёр,
то шэпт крыніц.

Твая ніжнегародская гаворка
Нагадвае таксама мне
То буркаванне трактарных матораў
У раннім стэпе па вясне,

То каласоў цяжкіх
прыбой былінны,
Што перакочваецца ўдаль,
То ціхі крык журботны жураўліны,
То бурны плёскат
волжскіх хваль.

* * *

Вусач,
загнаны страху маніяй,
«Народаў бацька»,
мне не даў
З ягоным профілем медаль
«За перамогу над Германіяй».

Таму, што я
Без весткі ўсякае
Прапаў у пекле агнявым.
Адрокся ён
ад сына Якава,
Калі той быў
яшчэ жывым.

А я ж на двух франтах
«кацюшаю»
Без жалю выпякаў чуму.
І ў ладкі пляскаў я паслужліва,
Яму маліўся аднаму.

Пакуль не ўбачыў у Германіі
Падобных мне «гаспадароў»,
Зачумленых
і адурманеных
Такім,
як ён,
правадыром.

Хацеў «народаў бацька» з фюрэрам,
Каб не дазналіся сыны,
Што іх паны
не толькі шулеры,—
Тыраны-дэспаты яны.

На самай справе
не Нямеччыну
Перамагалі мы,
калі
Яна й без нас была знявечана,—
Мы пакараць фашызм змаглі.

І менавіта ў гонар гэтага
Адліць медаль даўно пара
Без профілю
тырана-дэспата,
Што ў нас быў за правадыра.

* * *

*Марку Смагаровічу*

Кожны раз
Пры сустрэчы і нашым вітанні
Думаю пра выслоўе адно
Нездарма,
Калі куксу тваю ў знак
Майго спачування
Пацiскаю пяшчотна
Рукамі дзвюма.

Дзеля ўздыму ў крыві
Безразважнай адвагі,
Каб у холад сагрэцца
Ды ўзняць тарарам,
Па загаду наркома
У нашы біклагі
Выдавалі ўзбуджальнага зелля
Сто грам.

І хоць яд ёсць у гэтым
Спакуслівым зеллі,
Але я і цяпер ім па звычцы грашу...
Страх прымусіў
Цвяроза захоўваць у целе
Паўатручаную ў маладосці
Душу.

Куксаў дзвюх не схаваць
Ад надзённага хлеба.
У пакутным будзённым жыцці
Кожны раз
Вымушае
Любая

Малая
Патрэба
З рукавоў іх вымаць,
Быццам бы напаказ.

Што з таго,
Што адвагаю мсціўца
Ты некалі
Славіў свой,
Партызанствам славуты,
Раён,
А «таўпекаешся,
Як Марка па пекле»
З юных год
І да скону адпушчаных дзён?!.

Што мы ўдзельнікі
Страшных падзей,
А не сведкі,
Дык у гэтым нямашака
Нашай віны,
Юнакі-аднагодкі
І хлопцы-падлеткі,
Можа,
Бог дасць,
Апошняй,
Мінулай вайны.

# ПАСЛАННЕ МІКОЛЫ-ЎГОДНІКА ЛЕТАПІСЦУ ПІМЕНУ

Праява незвычайная:
Каб дома і на службе
Начальнік з падначаленым
Знаходзіліся ў дружбе.

Як брыгадзір з дзесятнікам
Мы працавалі спраўна:
Ты — майстрам,
Я — чаляднікам
І сябравалі слаўна.

Штогод у жніўні звечара
У дзень твайго анёла
Збіраліся на веча мы
Сямейным цесным колам.

Пасля ўсю ноч, праводзячы
Тваіх народзін дату,
Ужо мы ўдвух, без родзічаў,
Прыгадвалі салдатаў,
Што ў стан чырвоных рыцараў
Калісь былі пасланы:
Хто — трубадурам-рытарам,
Хто — свецкім капеланам,
Хто — сувязным, хто — пісарам,
А ты, нібы алмазы,
Рассейваў словы бісерам,
Стаў летапісцам часу.

Усіх знаёмых воінаў
Мы згадвалі да рання,

Якія ім прысвоены
Чыны,
пасады,
званні.

Ад грэху ачышчаліся
На споведзі ўзаемнай,
Міжвольна прычашчаліся
Прычасцем непрыемным:
Стограмамі законнымі,—
У меру, а не з лішкам...
Дый не з біклаг,
не з конавак —
З малюсенькіх кілішкаў.

Прыгаданае ў памяці
Пякельнае хрышчэнне
Асколачнаю замеццю
Было нам ачышчэннем.

Цяпер мы абыякавыя
Да званняў і да славы,
Не трэба нам ніякія
Гулянкі і забавы.

Кароткімі пасланнямі
Абменьваемся зрэдку.
Змагаемся з насланнямі
Зімой,
вясной
і ўлетку.

Ратуюць нас навацыяй
І сродкамі старымі:
Цябе ў рэанімацыі,
Мяне — паветрам Крыма.

Каб спраў не мець з хваробамі,
Нам раяць кінуць працу...
Дык што, мой дружа, зробім мы?..
Шчэ не пара збірацца
Чаляднiку-прыслужніку
У манастыр — паслушнікам,
А майстру-вераданніку —
Ягоным настаяльнікам.

* * *

*Генадзю Бураўкіну*

За тое,
што ў юнацтве гора
Спазнаў я ў апраметнае,
Справадзіў бог мяне за горы,
Да раю запаветнага.

А ты зняважыў птушак спевы
(Палёту невысокага),
Не толькі каршуноў разгневаў,
Але арлоў і сокалаў.

А від жа гэты —
забаронны,
Магутны не шматлікасцю,
А недасяжнасцю каронаў
Саміх яго вялікасцяў.

Не даспадобы ім твой нораў,—
Ад звычак не аднадзілі...
За акіян,
а не за горы
Яны цябе справадзілі.

Душу гнятуць чужыя гмахі
І песні ненапеўныя...
Як пералётныя мы птахі,
У нас жыццё няпэўнае.

Параскіданы нашы сем'і,
Ні ў ссылцы мы,
ні ў выраі,

Хоць, праўда,
і дзяўбём насенне
Не лебяды,
не пырніку.

Які б жыццёвы крыж ні нёс ты
І як мы ні занятыя,
А ў думках —
родныя нам гнёзды
З малымі птушанятамі.

## «ПОЛЫМЮ»

Перад табой
я кланяюся нізка
За тое,
што ў бацькоўскай старане
Адну сваю малюсенькую іскру
Закінула калісь
ты ў сэрца мне.

Калі я быў
далёка ад айчыны,
Дзе не магло
сагрэць твае цяпло,
І ў сне,
і ў час трызнення
прад вачыма
Мільгала кожны раз
твае святло.

Там,
пад зямлёй,
сярод шматмоўных плыняў,
Што ў цемры шлях
шукалі да святла,
Быў кропляй я
ў халоднай ручаіне,
Якая да агню твайго цякла.

Пасля
я да цябе туліўся блізка,
Не рукі грэў табою —
не хлушу,—
Я кожнаю тваёй маленькай іскрай
Адагравaў
настылую душу.

Ад слова першадрукара,
навечна
Запаленае думкай землякоў,
Ты не датлееш памінальнай свечкай
Па мове нашых матак
і бацькоў.

* * *

*Анатолю Вялюгіну*

Даўні сябра,
дбайны майстра слова,
Слынны галубятнік і грыбнік,
Нельга звешваць нам з табой галовы,
Што сваёй чупрынай ты панік?

«Полымя» ж яе не спапяліла,
Хоць не ліў ты ў «Полымя» вады.
«Маладосць» мяне падмаладзіла,
Мы паразумеемся заўжды.

У альтанцы пачытаем зычна
З вершамі старонку не адну,
Пакланіўшыся ёй,
як язычнікі
Кланяліся богу Перуну.

За губу кульну з табой
ці толькі
Каліва адно
вазьму на зуб,
Але рыжыкам тваёй засолкі
З хрумстам,
апетытна загрызу.

Горды галубятняю-хацінай,
Ты мне ў ёй
пакажаш летуноў:
З белым капюшонам —
капуцынаў,
З шапкай да вачэй —
рагатуноў.

Дутышаў,
якія зыркім шарам
Раздзімаюць спераду валлё...
Потым турманаў нястомных пару
Хвацка выправадзіш у палёт.

Помніш,
як яны ў маім партфелі
Сталі буркаваць у ранні час,
А швейцар маскоўскага гатэля
Палічыў за рэзідэнтаў нас?

Турманы,
як дзве стралы,
тым часам
Паляцяць імкліва ў сіняву,
Паімчацца па прамой адразу,
Закуляюцца праз галаву.

Будзеш ты сачыць на небасхіле,
З-пад сваёй параненай рукі,
Як яны распасціраюць крылле
І лунаюць,
быццам «ястрабкі».

То пікіруюць,
то ўверх ад долу
Узлятаюць,
робячы віраж.
Прыгадаеш ты авіяшколу,
Паказны вышэйшы пілатаж.

Дожджык-грыбасей
табе прысніцца,
Разам — леснікі,
лесавікі.

Слых адчуе,
як праз мох
з грыбніцы
Прарастаюць каласавікі.

Беручы радоўкі й падрадоўкі
У цяні прысадаў бальшака,
Прыгадаеш іншую радоўку
У жыцці падпаска-хлапчука.

Цераз сетку забароннай зоны,
Дзе грыбніца ўспора сцежцы плеш,
Ты не ў снах і ў марах,
а з разгону
Па грыбы на яве сіганеш.

## СОН

Ці таму,
Што яны
Багаславілі мяне з даверам,
А я не пабыў
На пахаванні абодвух сяціл,
Ці таму,
Што вайсковыя могілкі —
Побач з кватэрай
І я часта прыходзіў
Да іхніх свяшчэнных магіл,
Неяк ноччу аднойчы,
Акурат у год іх стагоддзя,
Яны разам удвух
Праведалі дома мяне:
Не гасцямі прыйшлі,
Бо нябожчыкі самі не ходзяць,
А зусім нечакана
Раптоўна прысніліся ў сне.

Як заўсёды, маўклівы,
Купала
Прамовіў з загадкай
І з папрокам нямым у вачах
На мяне паглядзеў:
«Таямнічую смерць
Абвясцілі няшчасным выпадкам
І мой прах пахавалі
Употай ад многіх людзей».
«Дык затое хвалілі, што я заклікаў,—
Мовіў Колас,—
Выкарчоўваць хмызняк на палях
Ды збіраць камяні.—
Загучаў саркастычна
Ягоны насмешлівы голас,

Пацвярдзеў, як метал,
Гартаваны ў вадзе і ў агні.—
Прымушалі, каб мы
Выракаліся матчынай мовы,
А маўчаць пра мой ліст,
Што ў дзень смерці
Аднёс я ў ЦК...
Чалавека вырошчвалі
Цывілізацыі новай,
Беларуса нямога,
Бязмоўнага,
Без языка».

Я ад іх палемічнай гаворкі
Прачнуўся адразу
І спрасонку адчуў,
Што ўсё цела палае агнём...
Даўні сон я прыгадваю зноў
І да гэтага часу
Не знаходжу спакою сабе
Ані ноччу, ні днём.

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Мы не ласыя на пернікі,
Хоць пакпіў аднойчы Броўка,
Што з табою мы —
суПернікі
На прэстыжныя вандроўкі.

Пад чыё выццё і цяўканне
Не ўздымалі па аўралу
Нас
заместа сілы цяглавай
Для вясельных генералаў?

Ад Амура
да Бярэзіны,
Ад Нарыльска
і да Кушкі
У натуршчыцы Паэзіі
Мы былі на пабягушках.

Золата ў пяску з каменнямі,
Як зярняты —
у палове...
Вычарпаеш рэчку жменямі —
Залатую рыбку зловіш.

Слынных пляжаў не вытоптвалі
Мы з табою
галышамі.
Я таптухай дапатопнаю
Акунёў лавіў з яршамі.
Смаката яны найпершая
Для трайной рыбацкай юшкі

(Іншы раз бывалі вершамі
Без засолкі і засушкі,
Калі сам
не быў рассеяны,
Не трапляў якімсьці цудам,
Як калісь
Андрэсу Веяну
На кручок
ягонай вуды).

Ты ж,
як сын зямлі азёрнае,
Вывучаны землякамі,
Закідаеш сеткі зорныя,
Ловіш вершы касякамі.

Не ў пагоні за рамантыкай,
А таксама па аўралу
Ты багаты ўлоў з Атлантыкі
Выняў паэтычным тралам.

Гартаваныя у полымі,
Пешчаныя ў маладосці,
Выраслі мы не кволымі,
Не таілі ў сэрцах злосці.

Хоць падчас і спатыкаліся
Ці ў Нурэку,
ці на БАМе,
Але мы не сутыкаліся
Анідзе з табой ілбамі.

* * *

Хоць я не дзяк,
Не поп і не кулак,
Але ўсё роўна быў бы вінаваты.
Не трапіў жа я ў сталінскі ГУЛАГ,
Таму,
Што нарадзіўся пазнавата.

Дваццацідвухгадовы,
Я ў баі
Ў Мясным Бары павінен быў загінуць,
Але трасіруючых куль раі
Не ўджалілі мяне
Ні ў лоб, ні ў спіну.

Здавалася,
Не выберуся век
Я з апраметнай,
Дзе пануюць чэрці,
Але сустрэўся добры чалавек
І ўратаваў ад голаду і смерці.

Хоць, праўда,
Вызваленых з пекла нас,
Таварняком,
А не ў вагонах спальных,
Накіравалі з Рура на Данбас,
З нямецкіх —
У савецкія капальні.

За тое,
Што ў нацысцкім Рэйху мы
У лагерах каналі, ў падзямеллі,
Чакаў нас дома баль у час чумы
І пасля лазні горкае пахмелле.

У чадзе жыў я семдзесят гадоў,
Ды ўрэшце выветрылася эпоха...
Цяпер спакойна я дажыць гатоў
Свой тэрмін,
Што наканаваны Богам.



*Нілу Гілевічу*

Бабруйшчыне,
хвалёнай гідамі
(Дый сам я кланяюся ёй),
Не параўнацца краявідамі
З красой Лагойшчыны тваёй.

А ўзяць Капыльшчыну са Случчынай
Ці слынны
Уздзенскі раён,—
Яны ў адзін не дарам злучаны
Геаграфічны рэгіён.

Там лес —
хоць нарыхтоўвай венікі,
А глеба,
дзе, нібы грыбы
У нерушы,
раслі пісьменнікі,
Прычым у жанрах у любых.

Іх,
праўда,
сціплая Ушаччына
(Адны азёры ды пяскі)
Менш узрасціла
хлебам матчыным,—
Затое не абы-якіх!

Твая ж Лагойшчына-удаліца,
Тым больш Бабруйшчына мая
Падобнай славай не пахваляцца,—
Прызнаемся і ты, і я.

Дык што ж рабіць з табой павінны мы —
Ці шкадаваць, ці бедаваць?..
Або на твары з кіслай мінаю
Пакепліваць ці жартаваць?

Маўляў,
хай бачаць нашы хроснікі,
Якім змаглі мы памагчы:
Мы не крывосныя зайздроснікі,
Не зубаскалы-хахмачы.

Мы сціплыя,
і мы цярплівыя,
Сур'ёзныя мы,
як яны,
Але веселуны зычлівыя,
Жывём папраўдзе,
без маны.

# УСПАМІНЫ БЫЛОГА ПАЛЫМЯНЦА

Нараджаны і кволым быў і голым я.
Але шчаслівы, мабыць, ад таго,
Што хрышчаны і гартаваны ў «Полымі»
Дый быў апрануты за кошт яго.

Яно з юнацтва мне, як літвучылішча,
Дало прытулак пад сваёй страхой.
І з пекла ў рай яно было чысцілішчам
З гарачаю парыльняю сухой.

Я ў «Полымя» за тройцай апантанаю —
За Мележам, Шамякіным, Брылём,
Ужо прызнанымі трыма Іванамі,
Хадзіў са знятым з галавы брылём.

Бо нам яно было не толькі кухняю
Для гатавання чытачам яды,
Але яшчэ і незаменнай кузняю,
Дзе падганялі вупраж для язды.

Мянялі ў колах шыны выпадковыя
І загваздкі, каб не было бяды,
Пегасаў неаб'езджаных падкоўвалі,
Атосаў напіналі павады.

Тут з загартоўкай шворанаў расслабленых
Закоўвалі ў падрэзы палазы,
Каб сані не куляліся на ўхабінах,
На паваротах на крутых — вазы.

Яе каваль, з нязвыклым трохі прозвішчам,
На першы погляд пагражальным — Танк,
Быў чалавек лагодны, непагрозлівы,
Меў вытрымку і ўмельства, ведаў такт.

Высакароднасць інтэлектуальная,
Адметны майстра, слова чараўнік,
Цікавая асоба абаяльная,
Дасціпны весялун і жартаўнік.

І ён мяне,
на дужасць небагатага
Дый хваткаю і спрытам так сабе,
У кузню гэтую за памагатага
Узяў малатабойцам да сябе.

З мяне малатабоец быў нявопытны,
Але ўсё роўна бачна было мне,
Як слова карыстаецца тут попытам
І асабліва свежае ў цане.

Як меркне слова,
гартам перапалена,
І як яно блішчыць з усіх бакоў,
Калі з яго здымаецца акаліна
Тачылам, рашпілем ці наждаком.

Яно і на памер тут вымяралася
І на падставе вагавых адзнак.
І разам з тым
Таксама выяўралася
На форму, на гучанне і на смак.

З нас кожны асабліва быў уражлівы,
Нібы набожны ў храме ў час імшы,
Вачамі і вушамі надта ўважліва
Улоўліваючы ў нямой цішы,
Як вымаўляліся тут словы Коласам
Сярод рэдактараў і выдаўцоў,
Ягоным ціхім глухаватым голасам
З адметнай, ледзь улоўнай хрыпатцой.

Як раптам прасвятляліся мы тварамі,
Бо Крапіва сур'ёзны спакваля
(Паблісквалючы грозна акулярамі),
Саланаватае слаўцо ўстаўляў.

Як рогат скаланаў усю сям'ю нашу,
Аж водгалас гучаў з усіх куткоў,
Калі не ў горач вугалі,
а ўюнашам
Падкідваў словы смешныя Лынькоў.

Не ў параўнанне з сённяшнімі чэргамі
Па цукар, па гарэлку ці алей,—
Ды аўтараў выстройваліся шэрагі
І ў «Полымя», нібыта ў маўзалей.

Як галасы свае харысты з кліраса,
Бярэмамі выкладвалі яны
Свае машынапісныя папірусы,
Бы ў млын мяхі здавалі збажыны.

Хоць і ў пісьменнікаў пары застойнае
Былі некаларыйныя харчы,
А творы ўсё-такі ад іх прыстойныя
Тады атрымлівалі чытачы.

Вядома, адчуваў сябе не проста я,
Як асабіста з Коласавых рук
Па частках браў трылогію «На ростанях»
Ці «Толькі ўперад» сам здаваў у друк.

Пасля «Глыбокай плыні» і «З народам»
«Мінскі напрамак» і «Векапомныя дні»,
Апошнія ўдастоеныя ўзнагароды,
Шум паднялі ў застойнай цішыні.

Што-кольвечы з надрукаваных намі рэчаў
Цяпер не ўвойдзе ў аўтарскі актыў,
Хоць «Пяюць жаваранкі»
і «Новае рэчышча»
Тады праславілі наш калектыў.

Дуплет «Сустрэнемся на барыкадах»
І «У Забалоцці днее»
сапраўды
Адкрылі тэмы новыя
і з радасцю
Былі сустрэты чытачом тады.

З удачай віншавалі мы і класікаў,
І радавых таксама заадно,—
З камедыяю «Выбачайце, калі ласка»,
З «Аповесцю пра залатое дно».

Пасля вайны была не надта голая
Літаратура ў нас і пагатоў,
Калі надрукавана гэта ў «Полымі»
Было за сем якіх-небудзь гадоў.

Рэдактар усміхаўся задаволена,
І кожны раз упарта ўносіў ён
Адну папраўку дробную, адвольную
У пералік пісьменніцкіх імён.

Выкрэсліваў
з хвалебных спісаў прочыркам
Склады імя і прозвішча свайго,
Разборлівым упісваючы почыркам
Прозвішча Панчанкі замест яго.

Апошні ў той далёкі час апальны стаў
У бюракратаў і кіраўнікоў

(Ва ўладароў жа не ў пашане таленты
Былі ва ўсе часы, спакон вякоў).

Каб перайсці з той кузні не прымусілі
У іншую,
я ў ёй бы век каваў.
У каваля праслаўленага, мусіць, я
Малатабойцам бы і звекаваў.

* * *

*Анатолю Вярцінскам*

Гаворадь,
кожны можа стаць паэтам,
Хто папрацуе некалькі гадоў,
Здавалася б,
у непрыкметным гэтым
З раённых
беларускіх гарадоў.

У рай і ў пекла ад яго парога
Да Бога й чорта
як падаць рукой
Чыгункаю,
асфальтнаю дарогай,
Славутаю славянскаю ракой,

Якая іншыя ўвабрала рэкі,
Каб не згубіўся ў лесе і ў палях
Вялікі водны шлях
з вараг у грэкі,
Цераз які пралёг Варшаўскі шлях,

Што ад Масквы братэрскай,
праваслаўна
Ідзе ў далёкі каталіцкі Рым
І ўскраінай перабягае здаўна
Цераз чыгунку
з Пецярбурга ў Крым.

Змяніўся горад з выгляду
і з твару:
Быў зборышчам студэнтаў да вайны,
А зараз па ягоных тратуарах
Бадзяюцца курортнікі адны.

Уздоўж і ўпоперак яго,
вядома,
Ты пехатою выхадзіў наўпрост.
Ад роднага мне
матчынага дома
Ён усяго за пяць дзесяткаў вёрст.

Алесь Жаўрук у ім уславіў поймы,
І вершы сніў Мікола Сурначоў.
Дзе Друць з Дняпром
злучаюцца ў абдоймах,
Стаіць зялёны горад Рагачоў.

# МАТЧЫНА НАВУКА

Ледзь не стаў я калісь аторвай:
Пакідаў самавольна дом,
Рэдкіх птахаў яйкі выпорваў,
Руйнаваў гняздо за гняздом.

Ды пачуў,
                што ты змалку,
                                мацi,
Узлюляла ў сэрцы любоў
Да буркуючых дзень на хаце
І ў падстрэшшы
                ручных галубоў.

Галубятніцаю — дзяўчынка?
Адмаўляць было не з рукі
Верагоднасць такога ўчынку,—
Ды ўсумніліся дружбакі.

Дрогкім голасам ты аднойчы
Супакоіла іхні тлум...
Адвяла вільготныя вочы,
Расказала пра здзек і глум.

Калі немцы забралі вёску
З камінамі дымных клубоў
Яшчэ ў тую вайну,
                іх войска
Забаялася галубоў.

Ні гарматаў іх,
                ні вінтовак
Не пужаліся галубы,
І таму здаваўся паштовым
Немцам гэты голуб любы.

Каб не вылецеў аніякі,
Не аднёс шпіёнскіх папер,
Свой прысуд
выконваць ваякам
Загадаў хутчэй афіцэр.

У падстрэшшы
і на гарышчы
Парастрэльвалі галубоў.
Так крывавым ліхім ігрышчам
Растапталі тваю любоў.

Твой расказ скалануў дазвання.
У мяне галубіны стрэс
Абудзіў па іх шкадаванне,
Аднавіў да іх інтарэс.

Галубятнікам стаў прыродным
Я сярод хлапчукоў сяла
І не ставіў ужо ніводнай
Птушкалоўкі або сіла.

Спеў прывычны твой
пра дзяўчыну,
Што аплаквала смерць бяроз,
Стала слухаць мне немагчыма:
Ён за сэрца кранаў да слёз.

Не лавіў тады ў садзе, знаю,
Ні сініцаў,
ні снегіроў
І ў няволі
ні папугаяў
Не трымаў я,
ні кенароў.

Абсадзіў я нашу сялібу
Шапаценнем не толькі бяроз,—
Маладых ясакараў і ліпак
Ды асінак і ніцых лоз.

Колькі я змайстраваў для птушак
І развешана колькі мной
У зімовыя дні —
кармушак
І шпакоўняў —
ранняй вясной!

Але слоў адпаведных мала
Для падзякі ў мове знайсці...
Дый табе падзякаваць,
мама,—
Пасаромеўся я ў жыцці...

Ты дала ўрок мудрай навукі.
Спасцігаць складана яе.
Навучыць ёй дзяцей і ўнукаў
Сіл і ўмельства ў нас не стае.

* * *

*Івану Шамякіну*

Помніш,
колькі ўваходзін
(Ды ў якія дамы!)
І радзін,
ці народзін
Разам справілі мы?

Наглядзець без абвесткі
Мелі шанц,
бо з рукі:
Ты —
для сына нявестку,
Зяця — я для дачкі.

Праўда,
хоць наваселлі
І радзіны былі,—
Разам справіць вяселле
Дзецям
мы не змаглі.

Мабыць,
выпрабавання
Не хапіла тады
На трываласць кахання
У кагось з маладых.

Бо ўзялі
ды ў нядзелю
У аднолькавы час
Два згулялі вяселлі,
Як знарок
напаказ.

Як нам быць,
не спыталі
Ні ў цябе,
ні ў мяне,
Што не станем сватамі
Мы па іхняй віне.

Не анёл жа ты боскі,
Ды і я не святы...
Але ўсё ў нас па-свойску,
Хаця мы не сваты.

# МЕТАМАРФОЗА

З самага ўступлення ў піянеры
З праўдай жыць пачаў я не ў ладах:
Па наіўнасці дарослым верыў,
Што раскоша — страшная бяда.

Вырас я няўклюдай даўгавязым,
Танцаваць які — ні ў зуб нагой...
Гальштук юнаком не ўмеў завязваць
Дый саромеўся насіць яго.

Бо за танцы, гальштукі, маністы,
За пярсцёнкі і духі тады
Насміхаліся ў нас камуністы
Як з дарослых, так і з маладых.

Бо лічылі ўборы перажыткам,
Падае што прыклад ім благі
(Хоць і елі хлеб таксама з жыта
І з мукі пшанічнай — пірагі).

Узаконенай ілжэнавукі
Кандыдаты ўсе і дактары
У галовы ўдзёўбвалі прынукай
Адмаўленне ісцінаў старых.

Ва ўнісон ім з раніцы да ночы
Камісары і палітрукі
Не заплюшчвалі ад стомы вочы,
Балбаталі, як цецерукі.

І ўсялілі ў нас надоўга пільнасць,
Да падманнага давёўшы сну...
Выкралі ў вайскоўцаў і ў цывільных
Казнакрады нашу ўсю казну.

Выстаўлялі напаказ іх жонкі
Крадзенае гэтае дабро:
З плаціны кулоны і пярсцёнкі,
Ды хрусталь, фарфор і серабро.

У асабняках у казнакрадаў
Золата й каштоўных камянёў
Не на унцыі,
не на караты,
А ў мільёнах лічыцца рублёў.

Мабыць, адтаго і слова «краты»
Нездарма на ўвазе меў народ,
Ёміста назваўшы партакратамі
Крымінальна-палітычны зброд.

* * *

*Алегу Лойку*

Напэўна,
не апошні і не першы
Я ўпадабаў даўно твой родны кут,
Пасля чытання палымяных вершаў,
Што напісаў Таўлай калісьці тут.

Стаў для мяне ён райскаю знаходкай,
Як пасля трэцяй мірнае зімы
Прыехалі ў Вялікую Кракотку
З Уладзіславай Францаўнаю мы.

Нязвычна ўразіў
краявід швейцарскі:
Узгоркі,
пералескі ды лугі,
І рэк малочных
у застоллях царскіх
Кісельныя здзівілі берагі.

Я зразумеў,
што гэтыя мясціны —
А для цябе яны —
сапраўдны рай —
Людзей працалюбівых
і гасцінных
Прыродаю багаслаўлёны край.

Адкуль табе на бровары,
мой дзеду,
Прыродны дэгустатар без прынук,
Падазраваць даўней было
ці ведаць,
Што будзе тут дэгуставаць унук.

Са шланга,
а не з конаўкі
ці з пляшкі,
Ці з туравых,
ці з зубравых рагоў
Не спірт-сырэц
і не сівуху-бражку —
Гаючае пітво саміх багоў?

Якіх я тут не каштаваў прысмакаў?!
Бацвінне з маладое крапівы,
Вяндліну,
паляндвіцу,
здобу з макам,
Кампот з дароў лясных і палявых.

Прывет,
багаславёны слаўны Слонім,
Цяністы сад,
знаёмы дом і склеп!..
На вышываным ручніку разломім
І з соллю
пакаштуем зноў твой хлеб.

## ЗАПРАШЭННЕ ДА РОЗДУМУ

> Народ, Беларускі народ!
> Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
> Табою ўсягды пагарджалі,
> Цябе не пушчалі з ярма
> І душу тваю абакралі,—
> У ёй нават мовы няма.
>
> *Максім Багдановіч. 1913 г.*

І з крыўдаю,
і з недаверам
Ўспрымаў я кожны
гэты сказ,
Чытаючы іх на паперы
У роднай школе
першы раз.

Але пазней,
калі на поўдні,
Каля падножжа Крымскіх гор
Яму мы адкрывалі помнік
Ці дошку
там, дзе ён памёр;

Ці з прозвішчам паэта ў Ялце
Бібліятэку бачу я,
Ці дом,
дзе жыў ён у юнацтве
На вуліцы яго імя;

Ці на яго магілу кветкі
Прыношу ўвосень
і вясной,
Я кожны раз
у момант гэткі
Узрушан думкаю адной:

Які меця талент
быў павінен
Юнак
у дваццаць два гады,
Дый то
пражытых на чужыне,
Каб выказацца
гэткім чынам
Пра наш народ яшчэ тады.

* * *

*Уладзіміру Паўлаву*

У Плёсах маіх
І ў тваім Замошшы
Як толькі ў садах
Сабралі апад,—
І ўдзень і ўначы
Залатыя грошы
Чаканіў і штампаваў
Лістапад.

Дый снежань прыйшоў
Не ў адзенні зрэбным,
На зіму ён
Назапасіў дабра:
З кудасы напраў
Белых нітак срэбных
І грыўняў
Наштампаваў з серабра.

А студзень прыйшоў,
Астудзіў паветра,
На ўток узяў жэмчуг
І паркалю
Сумёты-сувоі па кіламетру
З тых нітак наткаў
І склаў на зямлю.

А люты сшыў саван
Дый прыбірае
Зямлю,
Што мароз закаваў наўкруг.
Яе зіхаценне зрок адбірае,
Яе мерзлата пераймае дух.

Магілу ў ёй выкапаць —
Цяжка, гора,
Дый мёртвы
Замерзне ў цеснай глушы...
Таму і прыдумалі
Крэматорый,
Дзе — горача целу,
Вольна — душы.

## ЗОНЫ АДЧУЖЭННЯ

Сваёй карыслівай,
уласнай мэце
Пакорлівы і верны з веку ў век,
Чаго толькі не выдумаў на свеце
Сам для сябе
практычны чалавек.

То лепразоры для пракажоных,
То рэзервацыі для чужаніц...
Дзе выгарадзіў гета,
а дзе зоны
Нейтральныя
зрабіў каля граніц.

Ён,
быццам пуцявы абходчык нейкі,
Шлагбаўм падыме
і апусціць вам,
Цягнік сустрэне і агледзіць рэйкі,
Хоць і жыве
у зоне адчужэння сам.

# ВЫЗВАЛЕННЕ

Занадта доўгае маўчанне
Нарэшце
мне парушыць час
І расказаць,
як англічане
З палону вызвалілі нас.

Тым красавіцкім днём зялёным
Збыліся многіх вязняў сны,
Бо ён
для тысячаў палонных
Стаў святам волі і вясны.

У горадзе
шталаг гарняцкі
Заклекатаў,
як з варам чан,
Акружаны зусім знянацку
Мотачасцямі англічан.

І ўмомант
вахманаў-наседак
З гнёзд кулямётных
як змяло.
Павылятані з цесных клетак
Мы ўсе
на волю,
на святло.

Свае вінтоўкі,
аўтаматы
І кулямёты
сотні рук

Нямецкіх спуджаных салдатаў
На пляцы
складвалі на брук.

У рад,
прыкладам да прыклада,
Бы для ручное малацьбы
Калісьці ў гумнах
клалі ладам
На глінабітны ток снапы.

І абяззброеных ваякаў
Пасля адвёў англійскі ўзвод
Без цырымоніі ўсялякай
У лагер,
за калючы дрот.

А з англічанамі
ля кірхі
На пляцы
разабралі мы
Сюды падвезеныя кіркі,
Сякеры, малаты, ламы.

І то,
нібы малатабойцы
І вопытныя кавалі,
Ўсю зброю,
што здалі забойцы,
Мы перакоўваць пачалі.

То,
як малацьбіты-асілкі
Рады раскладзеных снапоў,
Не ў лад
яе мы малацілі
Адразу ў дваццаць пяць цапоў.

Пілоткі ў нас,
а ў іх — берэты
Спаўзалі з цемяў на ілбы
Ад перакоўкі дбайнай гэтай,
Ад гэтай рупнай малацьбы.

Спаднічак гойдаліся складкі
Ў стралкоў шатландскіх па баках,
Хадзілі,
як мяхі трохрадкі
У гарманіставых руках.

Я
іх клятчастыя спаднічкі,
Панчохі на нагах мужчын
Спярша,
вядома, з непрывычкі,
Прыняў за вопратку жанчын.

Занятак наш
са страхам нейкім
Да сэрца ўспрынялі свайго
Сабраныя на пляцы немкі,
Гатовыя ўжо да ўсяго.

Дый самі немцы-гараджане
Не ўтойвалі ў вачах жальбы,
З якой
яны суправаджалі
Ход нашай спорнай малацьбы.

Ламы
шчапалі ўшчэнт прыклады,
Ствалы
згіналі малаты,
На брук ляцелі зарападам
Зярняты іскраў залатых.

Пазней
у горадзе ўсё піва
Мы выпілі
і ўсё віно.
Мы абдымаліся шчасліва.
Ужо шмат хто
памёр даўно.

Шкада,
што гэтак доўга потым
З-за ўяўнай нашай барацьбы
Сабраць мы не змаглі ўмалоту
Той урачыстай малацьбы,

## АКТОРЫ

*Р. С. Філіпаву*

Цябе з прыхільнасцю бязмернай
Купалаўцаў вядомы калектыў
Узяў для роляў характэрных
І залічыў адразу ў свой актыў.

Ды гэткі волат і асілак,
Што з басам,
як раскаты перуна,
Наклікаў зайздрасць і няміласць,—
Зайздроснікаў жа не пераканаць.

Яны цябе і пакаралі
(Ды не бывае ліха без дабра).
Праз іх купалаўцы прайгралі.
Малы тэатр затое не прайграў.

Нямала ў ім бліскучых зорак.
Ды нельга не заўважыць і таго,
Што ты ў дынастыі актораў
Народжан менавіта для яго.

Высокі і шыракаплечы,
З басіста-гучным голасам густым,
Як хараша
і як дарэчы
У дом Астроўскага ўпісаўся ты!

Выходзіш ты заўжды дастойна
І ўпэўнена,
як цар займае трон.
Так уваходзіць у абойму
Не халасты,
а баявы патрон.

Ты для мяне артыст народны
За тое,
што прыбіўся да радні,
За тое,
што не стаў бязродны,—
Знайшоў свайго народа карані.

Ты трапіў у сваю стыхію
Адпушчанаю рыбай
з рук,
Бо ўсё ж Расія —
ёсць Расія,
А Беларусь —
ёсць Беларусь.

* * *

Быццам бы зусім нязначная прычына,
А цябе на роздум
раптам падштурхне...
У трамваі сёння раніцай
дзяўчына
Ветліва ўступіла месца мне.

Бач,
старэчыя пашкадавала ногі,
Паважае мой узрост
і сівізну,
Мо баіцца,
што звалюся ад знямогі
Ці,
крый божа,
часам,
стоячы,
засну.

А не ведае,
што я аслеплым кротам
Пад зямлёй аб чорны вугаль
тыцкаў твар,
Юнаком ссівеў
ад гора і ад поту,
Маладосць
праседзеў за калючым дротам
І пралежаў
на паверхні мулкіх нар.

Я падзякаваў
русалачцы-дзяўчыне, —
Пастаяць люблю
і пешкі пабрысці...

Хай благое ўсё
міне яе ў жыцці!
Лішні раз ёй адпачыць
я даў прычыну,
Бо жыццё пражыць —
не поле перайсці.

* * *

*Васілю Зуёнку*

*1*

Рэчка Нача цячэ ў акіян.
Нездарма яе ўславіў Зуёнак.
«Начу», кнігу яго,
як-ніяк
Браў у космас з сабой Кавалёнак.

*2*

Чалавек па абліччы відзён.
Як паэт,
Майстра ён адмысловы,
Што ашчадны
І змалку жадзён
Да крамянага свежага слова.

Нават цяжка такога знайсці:
Дабрачынны, спакойны, няшкодны,
І сумленны, і сціплы ў жыцці,—
Чалавек памяркоўна-лагодны
І ў пісьменніцкім нашым двары,
І ў сям'і,
І ў вандроўках заморскіх...
Недарэмна ж на Лысай гары
Сябраваў з ім Вядзьмак-Лысагорскі.

*3*

Па п'янцы
Карцёжнікі два
з азартам
(Карціна незнаёмага мастака)
Платформу вагонкі
выйгралі ў карты
І не знаюць,
як вывезці з тартака.

—

## ДОЧКАМ

Каб знаў я,
Што вас будзе трое,—
У паслядоўнасці любой
Даў кожнай бы
Імя другое:
Надзея, Вера і Любоў.

На вас надзея
І ў вас вера,
Любоў да вас,
А не да іх,
Кіраўнікоў-функцыянераў
І крывадушнікаў ліхіх,

Якія прадвяшчалі новы
Лад і парадак навакол
І выганялі нашу мову
З дзіцячых садзікаў і школ.

Яны ўхітрыліся злаўчыцца
Так скіраваць ходу падзей,
Што пахавалі як злачынцу
Купалу ўпотай ад людзей.

А я хацеў,
Каб ён і Колас
Між вас жылі з гадоў малых,
Таму вас пераве́ў у школу,
Дзе тут гучала слова іх.

Таму штодзённа я з маленства
Да іх магіл прыводзіў вас,
Як з могілкамі па-суседску
Жылі мы ў доме доўгі час.

І я хачу,
Каб вашы дзеці
Таксама ведалі,
Дзе ён,
І дбайна зберагалі ў свеце
Свайго народа пантэон.

## НАДПІС НА КНІЗЕ

Навек праславілі сваю старонку
Сыны і дочкі Нарачы пявучай:
Уладзімір Дубоўка ў вершах звонкіх
І Танк Максім —
у песнях неўміручых.

Па радыё
хвалу вяшчае ёй пяшчотна
Марыі Захарэвіч мяккі голас,
І пэндзлем услаўляе на палотнах
Яе красу
Васіль Шаранговіч.

# МАЙМУ АНЁЛУ-ЗАХАВАЛЬНІКУ

*В. І. Навуменка*

Сябрукова вяселле
І радзіны дачкі
Адзначалі не зеллем
За сталом дружбакі.

На радзінах вясёлых
Я не знаў, не чакаў,
Што самому
                    анёлам
Стане сябра дачка.

Мой анёл-захавальнік,
З цемрай у барацьбе
З неба
                    выратавальнік,
Бог, паслаў нам цябе.

Мой анёл-захавальнік,
Выратоўваў мой зрок
Скальпель твой,
                    як паяльнік,
Папрапальваў ён змрок.

Дык дазволь жа хоць кветкі
Прыпаднесці табе,
Як удзячнасці сведкі.
А каб стрэс
                    зняць з сябе,
Мой анёл-захавальнік,
Зноў я выпіць гатоў
Горкай чарку дазвання
За цябе і бацькоў.

* * *

У мясцінах горных
З доўгажыхарамі
Ёсць курортны горад
З ціхімі дварамі.

Дзеці ў школьнай форме
Каля дрэў зялёных
Там вавёрак кормяць
Са сваіх далоняў.

Каб было і сталым
Гэтак жа прыемна
Клапаціцца дбала
Пра сябе ўзаемна

Ды пад мірным небам
Не цурацца спорту,—
Дык было б не трэба
Ездзіць на курорты.

* * *

*Максіму Танку*

Не жадаў бы я анікому,
Каб на схіле гадоў людскіх
Давялося, як нам, выконваць
Спецыяльнасцей шмат якіх.

Нарыхтоўшчыка правіянту,
Санінструктара і ўрача,
Кухара і афіцыянта
Абавязаны мы сумяшчаць.

І ў адной асобе ўсё гэта,
Адначасна і задарма.
А для творчай працы паэта
Ні хвіліны вольнай няма.

Ноччу валішся з ног ад зморы,
Як насноўдаешся за дзень,
Быццам бы невылечна хворы, —
Не паэт,
А ягоны цень.

Хай на свеце святых і грэшных
Доля гэткая абміне...
Дзякуй Богу яшчэ,
што вершы,
Хоць і зрэдку,
ды сняцца ў сне.

* * *

Здавалася б,
звычайнае здарэнне,
А перайначыла яго настрой.
Яна яму ў няўтульным сутарэнні
Здалася міласэрнаю сястрой
У белым,
накрухмаленым халаце —
За столікам на нікельных нагах,
Што ў колбачках шкляных,
прабірках, ваце,
Дзе спірту з ёдам адчуваўся пах.
Ён стаў шпурляць ёй праз акно
букеты,
З паклонам,
ледзь прыкметным на хаду,
Як быццам мётламі пахучых кветак
Стыдаўся вымятаць нячысты дух.
І кут,
што ёдам патыхаў ды спіртам,
Язмінам расквітнеў з усіх бакоў,
І, быццам водарам духмяных міртаў,
Прапах ён мёдам руж і гваздзікоў.

А кветкі ў фортку ўсё ляцелі звонку —
І ўжо ўзялі ў палон яе сілком.
З плафонам столь
здавалася рамонкам,
А сценаў сінь —
блакітам васількоў.

* * *

*Памяці бацькі*

З Мазурскіх азёраў
І з кодраў румынскіх
Ты выбраўся ў часе сусветнай
Жывы
І на грамадзянскай
У Польшчы і ў Мінску
Таксама ўцалеў
І не склаў галавы.

Нябожчык мой бацька,
Дабрак і дружака,
Спакойны характарам,
Знешне мажны,
Сумленны ў жыцці
Беспартыйны служака,
Таму і кароткі
Твой спіс паслужны.

Вясковы пастух,
Сакратар сельсавета,
Нязменны ў калгасе сваім
Старшыня
І староста сельскай абшчыны
Тым летам,
Калі вызваленне
Сустрэла радня.

Не знаў ты, што служыш
Прыгоннаму праву,
Што нас рабавала
І люд за мяжой:
Калгасы —

Уласная наша дзяржава,
Абшчыны —
Прышэльцы з краіны чужой.

Даруй,
Што сябе адчуваў я нязручна
Ў руках з перадачай табе
Не адной:
У зале судовым,
Калі я быў вучнем,
Студэнтам —
У лагернае прахадной.

Каб знаў, дзе ўпадзеш,
Абмінуў бы свядома.
Плывец не адолее вадаварот.
Бяда,
Калі правай руцэ невядома,
Што левая робіць —
І наадварот.

Ну, што мне з таго,
Што пацвердзіў Цанава,
Што быццам бы ты
Па заданні служыў,
Калі ён раней
Не даведаўся нават,
Што ў лагеры ты
Галаву ўжо злажыў.

Не ведаю я,
Дзе ты быў пахаваны,
Ды знаю:
Магілы няма, бо над ёй —
Не крыж,
А разросся палын з дурнап'янам
І горб надмагільны
Зраўняны з зямлёй.

* * *

Калі-небудзь назіралі вы,
Як танцуюць двое закаханых?
Вочы ў вочы позірк агнявы,
Злучаны ў адзін абодва станы.
Беражна нясе рука руку,
І пяшчотна цешыцца другая
На крутым плячы
                    ці на баку,
Покуль такт музыка выцінае.
Бляск вачэй.
                    Узмахі ног і рук.
Сполахі то ўсмешак,
                    то румянцу.
Плаўны
                    ці імклівы кожны рух,
У залежнасці ад рытму танца.
Лашчаць гукі сэрца незнарок,
Рукі іх суадпаведны нотам.
Музыка бунтуе ў жылах кроў,
Працінае іхнія істоты.
Слава іх святому пачуццю,
Марам іх,
                    жаданням і імкненням!
Танец іх —
                    хвала і гімн жыццю,
Сэрцаў і палёт, і захапленне.

* * *

*Міхасю Казакову*

Пяцьдзесят гадоў мінула міма.
Кожны быў і ў радасці, і ў скрусе.
Палавіна праляцела ў Крыме,
Праплыла палова ў Беларусі.

Знаю:
Не ўспрымаеш ты цвяроза
Краявідаў казачных абрысы...
Ведама ж,
Алівы — не бярозы
І не сосны —
Пальмы й кіпарысы.

Але як-ніяк,
А ты ж не ў прымах,
Хоць жывеш
І не ў бацькоўскім краі.
Ты ж прапісан пастаянна ў Крыме,—
Не абы-дзе,
А ў прыморскім раі.

* * *

Праз палі ды пералескі,
Міма будкі на зары
Праляціць цягнік кур'ерскі,
Абганяючы вятры.

На імгненне
ярка-жоўты,
Выстаўлены,
як жазло,
З цемры выхапіць сцяжок твой
Ліхтара твайго святло.

Ціш агорне шлях сібірскі,
Покуль не падасць гудок
Стрэчны поезд пасажырскі,
Што імчыць у іншы бок.

Ярка высвеціць ля будкі
Сонечны агністы шар
Твой сцяжок, і стан твой гнуткі,
І прывабны мілы твар.

Ды за цягнікам не ўгнацца,
Хоць ён будзе зноў ісці...
Сцежкамі свайго юнацтва
Ты не пройдзеш у жыцці.

То шчабечуць дзеці ў будцы,
То ля станцыі ў гаі,
Цёхкаюць, як на пабудцы,
Безупынку салаўі.



У прыморскім горадзе,
дзе вокны
Ззяюць звечара,
бы ў сотах —
мёд;
Дзе прапахла соллю ўсё навокал
І лісцём лаўровым навылёт,

Весняю парой неспадзявана
Выпаў снег, зашэрхнула вада.
Долу з пералётных караванаў
Лебедзяў асела чарада.
Ну і што б вы думалі?..
Стыхіяй
З панталыку збітыя зусім,
Ўсё-такі не засталіся тыя
На вадзе
пры беразе марскім,

Дзе жыруюць на выгодзе мірна
Качкі й чайкі
тлумнай чарадой,
А знайшлі сабе
басейн-градзірню
З падагрэтай
грунтавой вадой.

Перад вокнамі гарвыканкома,

Побач з Домам гандлю і кіно,
Дзе шматлюдна,
корм —
у гастраноме,
І прыгляд начальства заадно.

Значыць,
мысляць лебедзі цвяроза,
Думаюць не горш,
як чалавек,
Хоць сярод людзей
птушыны розум
Выклікае кпіны,
нават здзек.

* * *

То кольцо надела мне цыганка.
Сняв с руки, я дал его тебе...

*Сяргей Ясенін*

Для цябе валошкі і рамонкі
Не адзін прыносіў я з палёў,
Але залацістыя пярсцёнкі
Толькі я табе з саломы плёў.

У ватазе жэўжыкаў ціхмяных
Для раўніўцаў з вострым языком
Ты была нявестай саламянай,
Я быў — саламяным жаніхом.

Сталаю, ты мне аднойчы тонка
Намякнула ўжо наконт таго,
Каб сапраўдны падарыў пярсцёнак.
Я табе прэзентаваў яго.

Ты ж, замест удзячнасці ўзаемнай,
Свой пярсцёнак,
дарагі ў цане,
На мой пруткі палец безыменны
Не дала як след прымераць мне.

* * *

*Памяці Уладзіміра Лугаўскога*

Над скалою Лугаўскога,
Над кустом здзічэлых руж —
З бессаромніцай-нябогай
Дуб —
як з вернай жонкай муж.

А ў марскім салёным порце
Плаўна прышчішае ход
З прозвішчам тваім на борце
Белагруды цеплаход.

Ты мне шэпчаш:
«Я жыву...
Бачу,
як каханкі з Ялты
Да абраннікаў плывуць,
Быццам трапяткія яхты.

Як бяруць на абардаж
Прыгажуняў кавалеры
І рабуюць іх багаж,
Бы купецкія галеры.

Дні і ночы
хвалі ў моры
Перагортвае прыбой
І хавае без разбору
Смех і слёзы пад сабой».

* * *

Як бы бяда
Ні здзеквалася ў жыцці,—
Сваёй дарогай запаветнай
Як мог,
Стараўся я сумленна ісці,
Хаця я — паэт непрыкметны.

Ад шчасця
Я не патануў у віне,
Як бы слава ні ап'яняла...
Сам Колас
Калісь блаславіў мяне
Са згоды самога Купалы.

Пазней
Я такую вывучку прайшоў,
Што кожны паэт пазайздросціць...
У «Полымі» — Танк,
У «ЛіМе» — Куляшоў
І Панчанка —
У «Маладосці».

Пашэнціла мець
Рэдактараў такіх,
Быць падначаленым
У гэтых
Не толькі
Сапраўдных класікаў жывых,
Але
І любімых паэтаў.

## ЖУРАЎЛІ

Ніколі я не сніў,
                    не марыў,
Што ў час адлёту
                    жураўлі
Узнімуць подлетка пад хмары
І выправадзяць да зямлі.

Спакой студэнцкага прычала
Ускалыхнуўшы ў міг тугі,
Курлыканне іх
                    прагучала
Як гімн зямлі, прыродзе гімн.

Але не ведаў я,
                    што стану
За імі ўслед у свет брысці,
Што іх картавы крык гартанны
Гучыць па-рознаму ў жыцці.

Марнеў я з роспачы ў адчаі,
Над лагерам ускрыкі іх
Нібыта рэквіем гучалі
Па мёртвых дружбаках маіх.

Затое вызваленне дату
Аркестр балоціста-лясны
Вітаў святочнаю кантатай
У гонар волі і вясны.

Вясной вярталіся дадому
Мільёны вызваленых душ,
І перамозе векапомнай
Сама прырода грала туш.

Не думаў я,
што з цягам часу
Самому давядзецца мне
Лятаць у вырай з імі разам
І зноў вяртацца па вясне.

Шмат год лятаю я пакорна,
А зараз прадчуваю страх:
Сігналяць жаласна
іх горны,
Прастуджаныя на вятрах.

Калі іх крык,
як марш жалобны,
У вашых загучыць вушах,
Дык знайце:
гэта ў край мой родны
Вяртаецца мая душа.

# ЗМЕСТ

**Аўрамчык М.**

А93 Запрашэнне да роздуму: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 94 с.

ISBN 5-340-01397-9.

Адзін са старэйшых беларускіх паэтаў Мікола Аўрамчык (нар. у 1920 г. на Бабруйшчыне) прайшоў нялёгкі жыццёвы шлях. Ягоны лёс — лёс нашага народа, які перажыў Бог ведае колькі ўлад, рэвалюцый, змен, але застаўся ў душы сваёй сардэчным, шчырым, спагадным, добрым.

Чарговая кніжка паэта прасякнута глыбокай трывогай за лёс роднай зямлі на парозе новага тысячагоддзя.

8820600000—033
А———————33—94
М 302(03)—94

ББК 84Бел7

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Аўрамчык Мікалай Якаўлевіч

**ЗАПРАШЭННЕ ДА РОЗДУМУ**

Вершы

Рэдактар *К. Я. Жук*
Мастак *А. Н. Карповіч*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

Здадзена ў набор 10.08.93. Падп. да друку 11.01.94. Фармат 70×
Папера афс. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. дру
3,51. Ум. фарб.-адб. 3,66. Ул.-выд. арк. 3,10. Тыраж 2200 экз. За

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэс
Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэра

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат
імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.